МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№1 (141)
студзень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### УСЕ “БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ” НА KAMUNIKAT.ORG

Нумары бюлетэня “Беларусы ў свеце”, які ўжо 13 гадоў выдаецца Згуртаваннем беларусаў свету “Бацькаўшчына”, цяпер даступныя ў інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org.

*Чытайце на стар. 3*

### АЛЕГ ЛАТЫШОНАК ПРА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ

Гутарка з Янам Максімюком.

*Чытайце на стар. 4-5*

### ЖЫХАР ВОЛАГДЫ ПІША ПЕСНІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Наш зямляк Максім Пятраеў разам з бацькамі пераехаў у Волагду ў дзяцінстве, тым не менш, ён вывучаў беларускую мову па кнігах.

*Чытайце на стар. 5*

### У БЕЛАСТОКУ ВЫЙШЛА КНІГА ЮРКІ ГЕНІЮША

Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org выпусціла ў Беластоку кнігу твораў Юркі Геніюша (1935-1985) — сына Ларысы і Янкі Геніюшаў.

*Чытайце на стар. 6*

ПАДЗЕІ

## БЕЛАРУСКАЯ І ЛАТЫШСКАЯ МОВЫ ЗАГУЧАЛІ РАЗАМ НА ЮБІЛЕІ “СЬВІТАНКУ”

Урачыстае святкаванне 25-годдзя Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” адбылося ў Рызе 11 студзеня. Сам юбілей быў 27 лістапада 2013 г., і спачатку ўрачыстасць мелася адбыцца ў лістападзе. Тады ж планавалі свой прыезд з Беларусі ў Рыгу намеснік старшыні Рады “Бацькаўшчыны” Барыс Стук і вядомы беларускі бард Зміцер Вайцюшкевіч. Аднак літаральна напярэдадні здарылася трагедыя: у адным з гандлёвых цэнтраў Рыгі абрынуўся дах, загінула шмат людзей. Натуральна, у краіне была абвешчаная жалоба, і святочнае мерапрыемства адклалі на пазнейшы час.




*Дзіцячы ансамбль “Вавёрачка“ Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы.*
*Фота Георгія Астапковіча*

Зала ў культурна-мастацкім цэнтры “Рытумс”, дзе праходзіла мерапрыемства, сабрала і дзяцей, і дарослых самых розных узростаў. Вітанні, віншаванні, прамовы на адрас “Сьвітанку” гучалі на беларускай і латышскай мовах.

Беларуская дзяржава была прадстаўленая загадчыкам консульскага аддзела беларускага пасольства Андрэем Кажаном, які выступіў першым і сказаў шмат цёплых словаў на адрас “Сьвітанку”. Ён зачытаў віншавальны ліст ад Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі спадарыні Марыны Даўгаполавай. Павіншаваў світанкаўцаў і Улад Рэдзькін, кіраўнік Беларускага інфармацыйнага цэнтра ў Рызе.

Латышская дзяржава таксама не засталася ў баку ад святочнай падзеі – ліст з віншаваннямі таварыству даслаў прэзідэнт Латвіі Андрыс Берзыньш. У лісце ён асабліва адзначыў унёсак ”Сьвітанку” ў дыялог латвійскай і беларускай культур. На святочным мерапрыемстве з вітаннем выступіла старшы рэферэнт аддзела грамадскай інтэграцыі ад Міністэрства культуры Латвіі Лінда Наўдышэ. Яна зачытала віншаванне ад Міністэрства культуры, а таксама ўзнагародзіла граматамі за значны ўнёсак у развіццё таварыства Ганну Іванэ – дырэктара Рыжскай беларускай школы імя Я. Купалы – і

*Працяг на наступнай старонцы*

# Беларуская і латышская мовы загучалі разам на юбілеі "Світанку"

Наталлю Цімаховіч, найстарэйшага сябра "Сьвітанку" (ёй 87 гадоў), доктара фізіка-матэматычных навук, астрафізіка.

Кіраўнік дэпартамента культуры, адукацыі і спорту ў Рыжскай думе Эйжэня Алдэрманэ зачытала віншаванне ад мэра Рыгі Ніла Ушакова. Эйжэня Алдэрманэ з вялікай сімпатыяй ставіцца да беларускай справы ў Рызе, і яна часты госць на культурных мерапрыемствах, якія ладзіць Рыжская беларуская школа.

Гасцінна сустрэла сяброў таварыства "Сьвітанак" Вія Ліетэ, дырэктарка культурна-мастацкага цэнтра "Рытумс", які ўжо 10 гадоў супрацоўнічае са "Сьвітанкам" і падтрымлівае яго дзейнасць, у тым ліку дае памяшканні для мерапрыемстваў таварыства. І, відавочна, за падтрымку і доўгае сяброўства старшыня таварыства "Сьвітанак" Ірына Кузьміч на адрас Цэнтра выказала глыбокую падзяку.

"Сьвітанак" не толькі гуртуе беларусаў Рыгі, але і сябруе з іншымі нацыянальнымі меншасцямі, іх аб'яднаннямі, яны наведваюць мерапрыемствы адзін аднаго, абменьваюцца досведам. 11-га студзеня павіншаваць "Сьвітанак" прыйшлі старшыня нямецкага таварыства Айна Балашка і старшыня польскага – Эдвард Фіськовіч.

У Латвіі працуе шмат беларускіх арганізацый. Павіншаваць "Сьвітанак" прыехалі беларусы Даўгаўпілса.

Натуральна, што такая падзея як юбілей у чвэрць стагоддзя не абышлася без былых старшыняў таварыства. На святкаванні прысутнічалі і Сяргей Кузняцоў, і Васіль Малышчыц, і Таццяна Казак, і канечне ж, адзін з заснавальнікаў "Сьвітанку" Вячка Целеш. Яны таксама павіталі гасцей і шчыра павіншавалі сяброў-сьвітанкаўцаў, выказаўшы радасць ад таго, што справа таварыства жыве і імпэт у яго сяброў не згасае.

Да віншаванняў далучыўся латвійскі паэт, кавалер ордэна Трох зорак Улдыс Берзыньш, які заўважыў, што, на яго думку, беларусы больш адкрытыя за латышоў.

Намеснік старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Барыс Стук, віншуючы сьвітанкаўцаў, асабліва ад-значыў ролю таварыства ў яднанні беларусаў Латвіі і захаванні беларускай культуры ў гэтай краіне. Адным з асабліва важных дасягненняў таварыства ён назваў адкрыццё беларускай школы ў Рызе.

Асобным святочным момантам было ўручэнне Ганаровым сябрам "Бацькаўшчыны" – Вячку Целешу і Таццяне Казак – пасведчанняў да Юбілейнага медаля "20 год Першаму з'езду беларусаў свету". Натуральна, не абышлося без падарункаў. Барыс Стук уручыў сьвітанкаўцам памятны падарунак з нагоды юбілею – гадзіннік з выявай Мірскага замка, а таксама перадаў для бібліятэкі кнігі, што былі нядаўна выдадзены Згуртаваннем.

Святочнага канцэрта з нецярпеннем чакалі ўсе. Дзіцячы ансамбль "Вавёрачка", які дзейнічае пры Рыжскай беларускай школе імя Янкі Купалы, выканаў некалькі беларускіх песень, прычым так прафесійна і так пранікнёна, што ў многіх былі слёзы на вачах. Ансамблю акампанавала яго кіраўнік, вядомая ў Латвіі піяністка Наталля Дзірвук.




*Падзяку ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з нагоды юбілею "Сьвітанку" ўручае намеснік старшыні Рады Згуртавання Барыс Стук. Фота Георгія Астапковіча*

Барыс Стук адзначыў: "Дзеці выступалі вельмі прафесійна і паказалі прыстойны ўзровень. Такое цяжка пачуць сёння ў Беларусі. Яны спявалі сапраўды ад душы і шмат каго расчулілі. Калі глядзіш на гэтых дзяцей, гэтую моладзь, то бачыш, што ёсць перспектывы захавання беларускага жыцця ў Латвіі".

Пасля дзіцячага калектыву перад гасцямі выступіў бард Зміцер Вайцюшкевіч – для латвійскіх беларусаў яго міні-канцэрт быў доўгачаканы. Вайцюшкевіч выконваў і новыя, і старыя свае песні, якім публіка ахвотна падпявала.

Музыка быў вельмі задаволены цёплым прыёмам. "Прыемна, што сабраліся людзі розных узростаў. Я ўражаны, як многія сталыя людзі, якія ў Беларусі практычна не жылі, цудоўна размаўляюць па-беларуску, – гаворыць Вайцюшкевіч. – Уражаны і тым, што ў Рызе ёсць беларуская школа – раней не ведаў гэтага. Было прыемна пачуць дзіцячы ансамбль, яны вельмі добра спявалі. Я рады таму, што пазнаёміўся тут з многімі цудоўнымі людзьмі. Шмат гутарыў з Вячкам Целешам. Тое, што тут няма канфрантацыі беларускай і латвійскай культур, а ёсць, наадварот, узаемная падтрымка, мне вельмі даспадобы. У маіх планах – вярнуцца ў Рыгу ізноў".

Пасля ўрачыстай вечарыны адбыўся святочны фуршэт. Госці гутарылі ў нефармальнай атмасферы, знаёміліся між сабой, а таксама змаглі пачуць выступ гурта аматараў беларускай песні "Вытокі".

"Увогуле, – дзеліцца ўражаннямі Барыс Стук, – на святкаванні панавала сяброўская атмасфера. Выступы былі шчырыя, адчувалася згуртаванасць людзей, іх апантанасць сваёю справай. Радуе, што гэтак жа апантаная справай і новы кіраўнік таварыства "Сьвітанак" Ірына Кузьміч. Безумоўна, ёй даводзіцца цяжка, бо раней у яе не было досведу кіраўніцтва грамадскай арганізацыяй, але яна мае цёплую падтрымку сяброў. Якраз на сяброўстве, на супольнай дзейнасці будуецца дзейнасць "Сьвітанку". Сябры таварыства – людзі розных узростаў, рознага сацыяльнага становішча, якія змаглі згуртавацца і з імпэтам працаваць разам. Я думаю, у "Сьвітанку" і далей будуць добрыя справы і новыя здабыткі".

Старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры Ірына Кузьміч падсумавала: "Усё прайшло выдатна. Хоць святкаванне і давялося перанесці і мы шмат абмяркоўвалі, як і калі яго лепей зрабіць, затое цяпер бачым – свята нашае атрымалася. Мы ўбачылі, што наша праца сапраўды, усур'ёз патрэбная людзям, і гэта, безумоўна, натхняе".

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ Ў КІЕВЕ

7-га студзеня на Раство паводле юліянскага календара беларускія і ўкраінскія дэмакратычныя актывісты з ініцыятывы Руху Салідарнасці "Разам" правялі ў Кіеве акцыю салідарнасці з адным з самых вядомых беларускіх палітвязняў, лідарам беларускіх прадпрымальнікаў Міколам Аўтуховічам і іншымі палітвязнямі.

Удзельнікі акцыі напісалі і адправілі паштоўкі 11-ці беларускім палітвязням, а таксама віншавальную тэлеграму Міколу Аўтуховічу, які нарадзіўся 7 студзеня. Актывісты памаліліся за палітзняволеных каля Міхайлаўскага сабора і паставілі за іх свечкі ў паходнай міжканфесійнай капліцы на Майдане Незалежнасці.

Таксама беларуская дэлегацыя падтрымала імкненне ўкраінскае нацыі да вяртання ў Еўропу праз выступы са сцэны Еўрамайдана. Украінцы падтрымалі беларусаў воплескамі, скандавалі "Жыве Беларусь!", "Разам – сіла!"

*Прэс-служба Беларускага Цэнтра ва Украіне*

## УСЕ "БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ" НА KAMUNIKAT.ORG

Нумары бюлетэня "Беларусы ў свеце", які ўжо 13 гадоў выдаецца Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", цяпер даступныя ў інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org!

Бюлетэнь-штомесячнік адлюстроўвае важныя падзеі ў жыцці беларускай дыяспары, яе набыткі і страты, праблемы і поспехі.

На старонках бюлетэня вы знойдзеце ўражанні тых, хто ўдзельнічаў у з'ездах беларусаў свету і ў іншых знакавых падзеях жыцця беларускай дыяспары, пазнаёміцеся з навінамі культурнага і палітычнага жыцця беларусаў замежжа, даведаецеся, як беларусы ў розных краінах і ў розныя гады святкавалі Дзень Волі, сустракалі Каляды ці ўшаноўвалі памяць продкаў на Дзяды, а таксама як яны адзначалі іншыя святы – нацыянальныя, народныя або ўласныя, такія, як юбілеі беларускіх суполак.

Многім будзе цікава пачытаць гутаркі з прадстаўнікамі беларускага замежжа і даследчыкамі беларускай эміграцыі або, напрыклад, пазнаёміцца з кніжнымі выданнямі беларускай дыяспары ці пра беларускую дыяспару.

Усё гэта ёсць у бюлетэні "Беларусы ў свеце". І нездарма да яго звярталіся і звяртаюцца навукоўцы і студэнты, якія займаюцца вывучэннем беларускай эміграцыі, як і тыя, каго проста цікавіць жыццё беларусаў незалежна ад краіны іх пражывання.

Любы ахвочы можа спампаваць патрэбны нумар у фармаце .pdf (для некаторых нумароў даступны таксама фармат .djvu).

Некалькі нумароў бюлетэня, якія пакуль адсутнічаюць, хутка таксама з'явяцца на сайце Камуніката.

Прыемнага чытання!

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## З БЕЛАРУСКАЙ КЛУБОЎНІ Ў ПРАЗЕ СКРАЛІ АБРАЗ БЯЛЫНІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ

Падчас калядных святаў беларускую клубоўню ў Празе абрабавалі невядомыя злачынцы, пакінуўшы за сабой разбітую шыбу і пагром у памяшканні. У першыя дні новага года клубоўня сапраўды выглядала жахліва. Злачынцы скралі ікону Бялыніцкай Божай маці, якую выканаў і падараваў клубоўні даўні сябра "Пагоні", славуты беларускі мастак Алесь Пушкін.

Акрамя іконы, была скрадзеная ўся тэхніка і некаторыя дробныя рэчы. Усе кнігі, хай і ў раскіданым выглядзе, засталіся на клубоўні.

Неабыякавыя сябры могуць дапамагчы клубоўні фінансава, ахвяраваўшы нейкія грошы на замену шыбы (каштуе 3000 крон) і набыццё новай тэхнікі (праектар, калонкі).

***Нумар рахунку "Пагоні":***
*2600498753 / 2010 (Fio banka).*

*Паводле pahonia.cz*

## АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ПАСЕДЖАННЕ РУХУ САЛІДАРНАСЦІ "РАЗАМ" У ПОЛЬШЧЫ

16 студзеня адбылося арганізацыйнае паседжанне Руху Салідарнасці "Разам" у Варшаве.

Удзельнікамі паседжання быў прыняты зварот да грамадства адносна правядзення жалобных мерапрыемстваў у звязку са 150-годдзем з дня страты нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага і абмеркаваны фармат акцыі 22 сакавіка ў Вільні. У сувязі з тым, што мерапрыемствы мяркуецца ладзіць разам з літоўскімі, польскімі і ўкраінскімі калегамі, на паседжанні прысутнічаў адзін з арганізатараў Еўрамайдана ў Варшаве А. Падгурскі, які падзякаваў сябрам Руху Салідарнасці "Разам" за падтрымку Майдана.

Таксама на паседжанні былі абраныя сябры ў Раду ( 7 чалавек) з мэтай рэгістрацыі Руху Салідарнасці "Разам" у Польшчы.

*Прэс-служба Руху Салідарнасці "Разам"*

## РАДА БНР ВЫСТУПІЛА З ЗАЯВАЙ З НАГОДЫ ГІБЕЛІ БЕЛАРУСА Ў КІЕВЕ

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выказала сваю заклапочанасць у сувязі з гвалтоўнымі сутыкненнямі ў Кіеве, падчас якіх быў забіты беларус Міхаіл Жызнеўскі.

"Дзеянні ўладаў, якія прыводзяць да забойства ўдзельнікаў вулічных дэманстрацый, нічым не могуць быць апраўданыя. Смерці актывістаў "Еўрамайдана" павінны быць пільна і празрыста расследаваныя, а адказныя асобы павінны быць прыцягнутыя да адказнасці ў адпаведнасці з законам, — гаворыць у сваёй заяве Рада. — Рада БНР выказвае сваю салідарнасць і падтрымку ўкраінскаму народу, які змагаецца за свабоду і дэмакратыю супраць дыктатуры, беззаконня і неаімперыялізму. Супраціў украінскага народа спробам усталявання аўтарытарнага рэжыму дае надзею на вызваленне ад дыктатуры ўсім народам нашага рэгіёну, і асабліва беларусам. За нашу і вашу свабоду!" — так сканчаецца заява.

*"Наша Ніва"*

## ПАДЗЯКА

Дзякуем за падтрымку дзейнасці Згуртавання Алесю Карповічу, Сільвестру і Каталіне Будкевічам!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## АБВЕСТКА

Таварыства беларускай культуры ў Літве займела новы сайт: **tavarystva.lt**. Сярод іншага там падаецца беларуская радыёперадача "Тутэйшы час", што транслюецца на літоўскім радыё і выходзіць раз на тыдзень. Рэдактар і вядучы гэтай перадачы - Андрусь Старавойтаў. Рада ТБК Літвы заклікае беларусаў да больш цеснай сувязі і чакае прапаноў і заўваг па сайце, а таксама артыкулаў для публікацыі на ім.

*Паводле Рады ТБК Літвы*

# Алег Латышонак пра беларускую ідэю – гутарка з Янам Максімюком




Алег Латышонак — гісторык, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, прафесар на гісторыка-сацыялагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку. Актыўны дзеяч палітычна-грамадскага жыцця беларускай меншасці на Падляшшы. Апублікаваў, сярод іншага, кнігі ”Białoruskie formacje wojskowe 1917–1923“ (Беласток, 1995), ”Od Rusinów Białych do Białorusinów. U źródeł białoruskiej idei narodowej“ (Беласток, 2006), ”Жаўнеры БНР“ (Беласток-Вільня, 2009), ”Нацыянальнасць — Беларус“ (Беласток-Вільня, 2009).

### Патрэбная ідэя

**Ян Максімюк:** Я хацеў бы пачаць нашу размову з даволі эфемернай тэмы, якой ты прысвяціў кучу свайго прафесійнага часу. Я маю на ўвазе гісторыю беларускай нацыянальнай ідэі. Скажы нам спачатку, што гэта такое — беларуская нацыянальная ідэя — і навошта яна беларусам патрэбная, калі наогул патрэбная?

**Алег Латышонак:** Само пытанне, ці такая ідэя патрэбная, ставіцца ўжо ў такім кантэксце, што яна ўсё ж мае нейкае значэнне і павінна кудысьці весці нацыю або народ.

Я даследаваў беларускую нацыянальную ідэю проста як ідэю існавання беларускай нацыі. Мяне цікавіла перш за ўсё, хто гаварыў, што такая нацыя існуе, калі такое гаварылі і якім чынам уяўлялі сабе беларускую нацыю. Але — гэтая тэма зусім не цікавіла мяне ў кантэксце адказу на пытанне ”што рабіць?”.

### Хто першы прамовіў “Мы беларусы”?

**Максімюк:** Ці знайшоў ты пункт у часе і канкрэтнага чалавека, ад якіх беларуская нацыянальная ідэя ўзяла свой пачатак? Інакш кажучы, ці была асоба, пра якую можна сказаць, што яна першая заявіла, што беларусы — гэта нацыя, а не толькі мужыкі, якія працуюць на пана?

**Латышонак:** Не было такой асобы. Узнікненне беларускай нацыянальнай ідэі — доўгатрывалы працэс. Таму я сцвярджаю, што гэтая ідэя мае арганічнае паходжанне. Яна не з'яўляецца нейкай канструкцыяй ці нейкім праектам у тым сэнсе, што нехта адзін або група інтэлектуалаў прыдумалі сабе нацыю, заявілі пра гэта ўголас і сталі гэтую нацыю ствараць. Гэтая ідэя ўзрастала практычна цягам усяго XIX стагоддзя. Былі людзі, якія адзначалі, што існуе нешта такое як ”беларускі народ“ (у такім значэнні, на якое палякі маюць слова ”lud“)... Вось у пачатку XIX стагоддзя расейскія дзекабрысты выказвалі меркаванне, што беларускі народ не саспее да стадыі нацыі, таму некаторыя з іх былі гатовыя падзяліць гэты народ з палякамі. А іншыя проста лічылі, што беларускі народ — частка ”вялікага рускага народу“. І так гэта паволі рухалася ўперад. Вызначаліся моўныя прыкметы беларускага народу, акрэсліваліся яго этнаграфічныя асаблівасці, яго звычаі. Але ўсё гэта рабілі людзі, якія казалі пра беларускі народ — ”яны“. Упершыню вызначэнне ”мы беларусы“ трапіла мне ў літаратурным тэксце, змешчаным у падручніку, які царскія ўлады надрукавалі для беларускіх школаў у 1863 годзе. Вось там, у гэтым падручніку — які называецца ”Розсказы на белорусскомъ наречіи“ — адзін з персанажаў, стараста Янка, кажа ”мы беларусы”...

**Максімюк:** Значыць, у 1863 годзе з'явіўся першы пісаны тэкст, у якім выступае самавызначэнне ”мы беларусы”?

**Латышонак:** Так. Прынамсі мне асабіста не вядомы ніякі ранейшы тэкст, дзе такое самавызначэнне выступала б. Да таго моманту ўсе пісалі пра беларусаў з пазіцыі ”яны беларусы“. А там якраз, у чытанцы ”Розмова на цментары старосты Янка зъ братчикомъ Хвэдосемъ“, з'яўляецца першая асоба, якая кажа пра такую супольнасць як беларускі народ з пазіцыі ”мы“. Аўтар гэтага тэксту невядомы, і гэты сумны факт у першую чаргу сведчыць пра стан беларускай гістарыяграфіі... Ну але вось, у тым царскім падручніку ”Розсказы на белорусскомъ наречіи“, у якім пяць тэкстаў на дыялектах, адзін з персанажаў, стараста Янка, упершыню кажа выразна, што мы — не палякі і не рускія, а беларусы...

**Максімюк:** Я думаю, да гэтага падручніка мы яшчэ вернемся. А цяпер я яшчэ хачу запытацца ў цябе пра дакладнейшы час, у якім з'явілася беларуская нацыянальная ідэя. Нават калі прыняць, што нараджэнне беларускай нацыянальнай было доўгатрывалым працэсам, то ўсё ж можна вызначыць часавую мяжу, калі гэтая ідэя набыла больш-менш сучасны выгляд...

**Латышонак:** Гэтай мяжою можна лічыць 1880-тыя гады. Гэта было звязана з эмансіпацыяй нізавых пластоў беларускага грамадства. Патрэбны быў час, каб вырасла хоць адно пакаленне пасля вызвалення сялянаў Аляксандрам II. Я тут не буду арыгінальным, калі скажу, што сучасная беларуская нацыянальная ідэя была выразна сфармуляваная ў асяроддзі пецярбургскага ”Гоману“ і беларускіх нарадавольцаў. Яны ясна заявілі, што існуе беларуская нацыя, і яшчэ сказалі ”чужыя рукі прэч ад Беларусі“, што можна лічыць нават нацыяналістычным лозунгам...

### Хто такі беларус?

**Максімюк:** Як ты лічыш, у сённяшнім беларускім грамадстве ёсць масавае ўсведамленне беларускай нацыянальнай ідэі як набору нейкіх дэфініцый і фармулёвак, якія адрозніваюць беларуса ад расейца або ад паляка? Інакш кажучы, каго сёння, паводле агульнага ўяўлення, можна лічыць беларусам, а каго не?

**Латышонак:** У сваіх даследаваннях я заўсёды прытрымліваўся прынцыпу, што беларус — гэта дэкларацыя. Калі нехта дэкларуе сябе беларусам, дык ён і ёсць беларусам. Таму я не адмаўляю беларускасці нікому з тых, хто лічыць сябе беларусам. Ніякага набору, пра які ты кажаш, не існуе. У гэтым сэнсе

*Працяг на наступнай старонцы*

# Алег Латышонак пра беларускую ідэю – гутарка з Янам Максімюком

*Працяг. Пачатак на с.4*

беларусы не з'яўляюцца нацыяй...

**Максімюк:** Не зразумеў... У якім сэнсе беларусы не з'яўляюцца нацыяй?

**Латышонак:** Ну, у тым сэнсе, што існуе нейкі акрэслены набор прыкметаў і ўяўленняў пра тое, што значыць быць беларусам. Уяўленні пра тое, што такое беларускасць і быццё беларусам, настолькі розныя, што фактычна немагчыма знайсці адно на ўсіх вызначэнне беларускай нацыі, як у выпадку тыповых еўрапейскіх нацый.

**А хто такі беластоцкі беларус?**

**Максімюк:** А якім бокам пад гэтую беларускую нацыянальную ідэю падпадаем мы, падляшскія беларусы? Тут таксама найважнейшай з'яўляецца асабістая дэкларацыя? Чаму мы з табою беларусы, а не палякі або ўкраінцы? Толькі таму, што мы так лічым? Ці, усё ж, ёсць нейкія іншыя прычыны, з-за якіх мы не можам быць некім іншым?

**Латышонак:** Ну, нас яшчэ аб'ядноўвае пэўны мясцовы дух і супольны досвед. Калі гутарка вядзецца пра беларусаў Беласточчыны, то я лічу іх вельмі адметнай беларускай супольнасцю, у якой нацыятворчы працэс прасунуўся вельмі далёка. Я думаю, што нават у Беларусі няма настолькі аднароднай беларускай супольнасці, як беластоцкія беларусы. У нас няма такіх унутраных падзелаў, як у астатнім беларускім грамадстве. У нас тыя, якія не захацелі быць беларусамі — ну, няхай сабе і беларусамі ”польскага ўзору“ — проста перайшлі да палякаў. Таму гэтая беластоцкая беларушчына даволі аднародная. І гэта яна нас адрознівае ад беларусаў рознага тыпу ў Рэспубліцы Беларусь.

**Максімюк:** Мы аднародныя — ты сапраўды так думаеш?!

**Латышонак:** Мы даволі аднародныя. Прынамсі такую выснову я раблю са свайго досведу як палітык і як даследнік. Я тут не гавару пра ”праваслаўных палякаў“ і пра іншых, а толькі пра тых, якія дэкларуюць беларускую нацыянальнасць. Гэта вельмі аднародная група, нягледзячы на свае палітычныя падзелы. Дый гэтыя палітычныя падзелы маюць штораз меншае значэнне для нашага жыцця. Некаторыя лічаць, што беластоцкая беларускасць моцна звязаная з праваслаўем. Найноўшыя доследы не пацвярджаюць гэтага стэрэатыпу. З іх вынікае, што беларускасць на Беласточчыне — абсалютна мадэрнага тыпу. Такія адказы атрымалі ў сваіх апытаннях даследчыкі. ”Я — беларус“ таму, што я адношу сябе да пэўнай традыцыі, звязанай з беларускай нацыяй.

Я сам пераканаўся, што тое, што мы з табою гаварылі гадоў 30 таму ў дыскусіях з нашымі царкоўнікамі — менавіта, што праваслаўе на Беласточчыне неабавязкова пратрымаецца даўжэй, чым беларускасць — сёння ўжо відавочнае, як на далоні. У цэрквы сёння ходзіць менш людзей за тых, чые дзеці вывучаюць беларускую мову.

*Паводле “Радыё Свабода”*

*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.by*

# Жыхар Волагды піша песні па-беларуску

Наш зямляк Максім Пятраеў разам з бацькамі пераехаў у Волагду ў дзяцінстве, тым не менш, ён вывучаў беларускую мову па кнігах. Паміж іншымі занякткамі ён піша песні па-беларуску і нават плануе запісаць альбом.

”Наша Ніва“ паразмаўляла са спадаром Пятраевым, каб даведацца, як расійская публіка рэагуе на беларускую мову і як выйшла, што кліп ”Ляпісаў“ ”Капітал“ упершыню прэзентавалі менавіта ў Волагдзе.

**”Наша Ніва“**: Вы нарадзіліся ў Бабруйску, як апынуліся ў Волагдзе?

**Максім Пятраеў**: Вельмі проста, мой бацька – вайсковец, яго адправілі ў Волагду, куды мы і пераехалі сям’ёй. З таго часу я амаль бязвылазна жыву тут, што праўда, па заканчэнні ўніверсітэта я на год вяртаўся ў Бабруйск.

**”НН“**: Як пачалі пісаць песні па-беларуску?

**МП**: Калі я навучаўся на другім курсе, бацькі падарылі мне гітару. Недзе праз год з’явіліся першыя песні, яны былі на рускай і на англійскай мовах. А пасля з’явіліся і песні па-беларуску.

У кожнай мовы ёсць свая мелодыка, часам тое, што нармальна гучыць па-англійску, выглядае як тупая бессэнсоўная папсяціна, калі тое самае праспяваць па-руску.

Так і з беларускай мовай. Тое, што не гучыць па-руску, можа выдатна запрацаваць. Урэшце, голас я ўспрымаю як частку мелодыі песні. Калі радок у галаве складваецца на той ці іншай мове, ён папярэдне не пытаецца, на якой будзе лепей.

**”НН“**: А мову дзе вучылі?

**МП**: Я асабліва не вучыў. Маю пэўную схільнасць да моваў, беларускую вучыў па кнігах, па беларускай музыцы. Падчас жыцця ў Бабруйску ”счытваліся“ беларускамоўныя шыльды.

Па самаадчуванні я беларус, і крыўдна, што сітуацыя з мовай складаная. Як прыклад, ёсць Украіна, дзе шмат усяго ствараецца менавіта на роднай мове, і гэта рэчы прыгожыя і моцныя, чаму б і нам не рабіць тое самае?

**”НН“**: За беларускай музыкай сочыце?

**МП**: Мэтанакіравана – не. Маю падборку ўлюбёных песняў, ”Ляпісаў“ тых самых вельмі люблю.

**”НН“**: Ці збіраецеся запісваць песні?

**МП**: Доўгі час я пісаў песні ў стол, зрэдку спяваючы іх сябрам. Пазнаёміўся з мясцовым рытм-н-блюзавым гуртом, пачаліся канцэрты і рэпетыцыі. Пасля быў перапынак на паўтара года. Цяпер я зразумеў, што трэба закрываць гештальты – сабраў новы склад, зараз збіраемся запісвацца.

Я думаў пра беларускамоўную кружэлку, да канца года будзе адпрацаваная невялікая праграма на мове, тым больш ёсць чалавек, які падбухторвае запісаць па-беларуску як мінімум сінгл.

**”НН“**: Як валагодская публіка рэагуе на беларускамоўныя песні?

**МП**: Абсалютна нармальна. Расійская публіка ўвогуле вельмі лаяльна ставіцца да песняў на іншых мовах.

У англамоўных краінах, калі ты спяваеш не па-англійску, ніхто цябе асабліва слухаць не будзе. У Расіі трохі па-іншаму, спявай хоць на старанарвежскай якой-небудзь…

**”НН“**: Але ж музыка далёка не асноўны ваш занятак?

**МП**: Так, я спецыяліст па развіццю супольнасці, таксама вось ужо дзясяты год ладжу міжнародны фестываль ”Мульціматограф“. Гэта фэст мультымедыйнай творчасці, кліпаў, таксама цэлы шэраг майстар-класаў і лекцый. Сёлета будзе дзясяты, юбілейны. Дарэчы, некалькі гадоў запар нам на конкурс дасылалі свае відэакліпы беларусы, гурт Recha, якія спяваюць па-беларуску, што было вельмі прыемна. А ў 2008 мы былі першыя, хто паказаў кліп ”Ляпісаў“ ”Капітал“, яны таксама даслалі яго на конкурс. Калі не памыляюся, гэта быў першы паказ у гісторыі кліпа.

*Юрась Ускоў, “Наша Ніва”*

## КАЛЯРОВАЯ БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ЧЫТАНКА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ УЖО Ў КНІГАРНЯХ МІНСКА




Навагоднія святы прайшлі, але ніколі не пройдзе жаданне радаваць дзетак. "Чытанка для маленькіх" з'явілася ў кнігарнях Мінска і інтэрнэт-крамах. Яна выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор" на замову МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і стала працягам серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў "Каляровы ровар".

У "Чытанцы" сабраныя як народныя, так і аўтарскія вершы і казкі, калыханкі і гульнёвыя прыпеўкі для дзетак да трох гадоў. Укладальнікі кнігі – вядомыя знаўцы беларускай мовы Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі.

Мастачка Святлана Канькова-Дударэнка адмыслова да гэтага выдання зрабіла ілюстрацыі – яскравыя, разнастайныя, душэўныя. Яе малюнкі прыйдуцца даспадобы маленькім чытачам, так што кнігу захочацца гартаць зноў і зноў!

Але не трэба хвалявацца, што дзеткі "зачытаюць кніжку ўшчэнт": чытанка выдадзеная на шчыльнай крэйдавай паперы і мае цвёрдую вокладку.

Гэтае выданне, якое прыемна чытаць, разглядаць і нават проста трымаць у руках, будзе выдатным падарункам маленькім дзеткам ды іх бацькам.

"Чытанку для маленькіх" ужо можна набыць у кнігарнях Мінска, а таксама замовіць у інтэрнат-крамах knihi.by і prastora.by.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КУРСЫ "МОВА НАНОВА" – ЦЯПЕР І Ў ФАРМАЦЕ АНЛАЙН

У Сеціве запрацаваў сайт курсаў movananova.by, дзе можна знайсці цікавыя і разнастайныя матэрыялы па вывучэнні беларускай мовы.

Сайт быў прэзентаваны падчас першага занятку курсаў "МОВА НАНОВА" (які, дарэчы, быў аншлагавым).

"МОВА НАНОВА" — бясплатныя курсы беларускай мовы, якія існуюць са студзеня 2014 года, і маюць крэатыўны фармат. Курсы запачаткавалі ў Мінску філолаг Алеся Літвіноўская і журналіст Глеб Лабадзенка, якія і распрацавалі матэрыялы для сайта.

Цяпер тут даступныя матэрыялы больш чым двух дзясяткаў урокаў (напрыклад, "Святы", "Музыка", "Спорт", "Часткі цела", "Лацінка", "Надвор'е", "Адзенне", "Посуд" ды інш.). Таксама на сайце ёсць спіс беларускіх народных імёнаў, цікавосткі, сканаваны ўрывак з трэцяга статута ВКЛ. Ёсць рубрыкі відэа, граматыка, марфалогія, правапіс, лексіка, гісторыя мовы, культура мовы ды інш.

Сайт распрацаваны Юрасём Адамовічам.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## У БЕЛАСТОКУ ВЫЙШЛА КНІГА ЮРКІ ГЕНІЮША

Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org выпусціла ў Беластоку кнігу твораў Юркі Генюша (1935-1985) — сына Ларысы і Янкі Геніюшаў. Кніжку падрыхтавала беларуская пісьменніца і журналістка Міра Лукша разам з беларускім журналістам Віталём Лубам з Беластока. Яна мае назоў "Смыком па сэрцы".

Юрка Геніюш нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў мястэчку Зэльва ў сям'і лекара. У той час беларускаму інтэлігенту не было прыстойнага месца ў Айчыне, таму бацькі Юркі эмігравалі ў Прагу. Там прайшло яго дзяцінства ў беларускасці, якой поўніўся эміграцкі дом Геніюшаў.

Дэбютаваў на старонках беларускага тыднёвіка "Ніва" ў Беластоку 20 кастрычніка 1963 года апавяданнем "Прыкметы". Праз два гады ў беластоцкім альманаху "Белавежа" змясціў кароткую падборку сваёй прозы. Першай значнай на творчым шляху кніжкай стаў "Зборнік сцэнічных твораў", выдадзены ў 1976 годзе Беларускім грамадска-культурным таварыствам. У альманаху літаратурнага аб'яднання "Белавежа" Юрка Геніюш выявіў зусім новыя якасці свайго таленту, менавіта ў паэтычнай прозе.

Як кожны сапраўдны беларускі літаратар, шчыры беларус, ён хварэў за будучыню роднага слова. Пры жыцці апублікаваў у перакладзе на польскую мову зборнік паэтычнай прозы "Спачатку было толькі Слова..." (Беласток, 1981). Пасля смерці выйшлі кнігі "Маці і сын" (разам з Ларысай Геніюш) (Беласток, 1992) і "З маёй званіцы" (Беласток, 1993).

Выхад новай кнігі твораў Юркі Геніюша "Смыком па сэрцы" — даніна яго светлай памяці.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ДАРАФЕЙ ФІЁНІК АТРЫМАЎ ПРЭМІЮ КНЯЗЯ АСТРОЖСКАГА

“Пабожнасць, маральнасць, асвечанасць і адкрытасць. На гэтым развівалася наша культура, і я хачу яе захоўваць”, – кажа лаўрэат сёлетняй прэміі князя Астрожскага, старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах на Падляшшы Дарафей Фіёнік: “Людзі не прыходзяць на зямлю, каб жыць толькі для сябе. Наш дом з'яўляецца малой царквой, а царква для праваслаўных хрысціянаў – гэта даваць прыклад іншым. Наша сям'я адкрытая, у нас бываюць розныя людзі, з якімі мы маем творчыя адносіны, з якімі мы робім розныя справы – гэта для нас з'яўляецца сэнсам жыцця”.

Дарафей Фіёнік сёлета з'яўляецца адзіным лаўрэатам з Польшчы. Узнагароды князя Астрожскага прысуджае Фонд імя князя Астрожскага і часопіс “Праваслаўны агляд”.

*Радэк Дамброўскі, Беларускае Радыё Рацыя*

***Управа МГА ”ЗБС ”Бацькаўшчына“ шчыра віншуе Дарафея Фіёніка з узнагародай! Няхай яна дорыць натхненне для далейшых добрых справаў!***

## У БЕЛАСТОКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ЮРЫЯ ГУМЕНЮКА

У гадавіну смерці паэта і журналіста Юрыя Гуменюка яго сябры і знаёмыя сабраліся ў беластоцкай кавярні “Акцэнт”. Удзельнікі вечарыны слухалі вершы, глядзелі відэа, распавядалі адметныя здарэнні з жыцця паэта.

Пісьменніца і журналістка Ганна Кандрацюк-Свярубская адзначыла, што беларуская творчая супольнасць павінна на гэтым прыкладзе зрабіць высновы: “Смерць Юры Гуменюка павінна нас крыху адкрыць на лёс творцаў. Думаю, падобнае ёсць і цяпер у нас: маем паэтаў, якія пакінутыя самі сабе, нікому непатрэбныя. Але ж трэба памятаць, што яны будавалі нашу прастору, нашу годнасць”.

Юры Гумянюк – гарадзенскі паэт і журналіст, трагічна загінуў 19 студзеня 2013 года, на 44-м годзе жыцця. Летась, да дня нараджэння паэта, выдавецкая ініцыятыва “Гарадзенская бібліятэка” выдала найбольш поўны збор яго паэзіі – кнігу “Назавіце мяне геніем”.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛЮТЫ 2014 ГОДА

4 лютага – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай культуры.

6 лютага – 100 гадоў таму ў в. Саматэвічы (цяпер Касцюковіцкі р-н) нарадзіўся Аркадзь Куляшоў (1914–1978), паэт, перакладчык.

11 лютага – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку (цяпер Польшча) створаны Беларускі клуб (старшыня Юры Туронак).

13 лютага – 40 гадоў таму ў Будславе (Мядзельскі р-н) памерла Паўліна Мядзёлка (1893–1974), актрыса, дзеяч культуры. Пахаваная ў Будславе.

14 лютага – 90 гадоў таму, у 1924-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты ”Голас Беларуса“ (выходзіла да 16 красавіка 1924 г.). Рэдактар-выдавец – Мікола Шыла.

14 лютага – 25 гадоў таму ў Канадзе памёр Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989), педагог, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1970–1982 гг.). Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

19 лютага – 35 гадоў таму памёр Янка Геніюш (1902–1979), грамадскі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу. Пахаваны ў Зэльве.

21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.

21 лютага – 40 гадоў таму памёр Лявон Савёнак (1897–1974), пісьменнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

22 лютага – 125 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Мікола Байкоў (г. Бежацк Цвярской губ., Расія), мовазнавец, літаратуразнавец. Памёр пасля 1945 г.

22 лютага – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку (цяпер Польшча) заснаваны першы гурток Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС). Першы старшыня – Юрка Каліна.

23 лютага – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Маскве (Расія) Беларускі нацыянальны камісарыят і Маскоўская беларуская секцыя РКП(б) стварылі асветны клуб ”Беларус“.

25 лютага – 55 гадоў таму ў Вільні памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891–1959), палітычны дзеяч. Пахаваны ў Коўне (цяпер Каўнас, Літва).

25 лютага – 30 гадоў таму памёр Язэп Пітушка (1913–1984), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Пахаваны на могілках Парк-Лон ў Таронта (Канада). Нарадзіўся на Браслаўшчыне ў 1913 г.

27 лютага – 95 гадоў таму, у 1919-м, створаны ўрад Літоўска-Беларускай ССР са сталіцай у Вільні.

ВІНШАВАННІ

## ВІНШУЕМ АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА!

31 студзеня – юбілей у Анатоля Грыцкевіча, прэзідэнта МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ў 2001–2005 гг. і ганаровага сябра Згуртавання, даследчыка беларускай гісторыі, доктара гістарычных навук, прафесара, аднаго з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту і Таварыства беларускай мовы.

Ад усёй душы віншуем Вас, шаноўны спадар Анатоль, з 85-годдзем! Вашая руплівая навуковая і грамадска-культурная дзейнасць прынесла беларусам многа па-сапраўднаму каштоўных здабыткаў, і мы высока цэнім гэтую працу. Зычым Вам, шаноўны Анатоль Пятровіч, добрага здароўя, радасці і натхнення, імпэту і плёну ў працы, цяпла і дабрабыту!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў лютым: **Валянціну Шаўчэнка** (Канада), **Зміцера Гаўрусіка** (Беларусь), **Аркадзя Крупеньку, Міколу Нікалаева** (Расія), **Васіля Астаповіча** (Украіна). Зычым шаноўным імяніннікам здароўя і даўгалецця, гумору і радасці, плёну ў працы і пазітыву!

У лютым некалькі сябраў Вялікай Рады Згуртавання адзначаюць знакавыя юбілеі. 4 лютага спаўняецца 80 год **Арсену Лісу**, 8 лютага – 85 год **Леаніду Лычу,** а 22 лютага 55-годдзе адзначыць **Леанід Гаравы**.

Шаноўныя юбіляры! Вы – тыя, хто звязаў сваё жыццё з працай дзеля Радзімы, дзеля Беларусі. Праз гады дзейнасці вы заўжды заставаліся непахіснымі ў сваіх поглядах і вернымі абранай дарозе жыцця. Вамі ганарацца і на вас раўняюцца новыя пакаленні беларусаў. Віншуем вас ад усяго сэрца! Няхай ваш жыццёвы шлях будзе як мага даўжэйшым, светлым і радасным, а натхненне і шчасце будуць заўсёды з вамі поруч!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## НЕ СТАЛА ІРЫНЫ АРЖАХОЎСКАЙ



26 студзеня 2014 года на васьмідзясятым годзе жыцця пасля працяглай хваробы памерла вядомая грамадская дзяячка ва Украіне і за яе межамі, кіраўнік Усеўкраінскага саюза беларусаў (2000-2013 гг.) Аржахоўская Ірына Аляксандраўна.

Ірына Аляксандраўна прайшла слаўны жыццёвы шлях, аддаючы ўсе свае сілы справе, чым бы яна ні займалася: ці рупліва працавала на педагагічнай ніве, ці займалася партыйнай працай, ці грамадскай дзейнасцю.

З яе ўдзелам была створаная адна з першых беларускіх арганізацый ва Украіне – Кіеўская гарадская нацыянальна-культурная арганізацыя "Беларусь". Пад кіраўніцтвам Ірыны Аляксандраўны ў 2000 годзе адбылося аб'яднанне беларускіх арганізацый Украіны ва Усеўкраінскі саюз беларусаў. Як Старшыня УСБ, Ірына Аржахоўская зрабіла важкі ўнёсак у захаванне і далейшае развіццё нацыянальнай, культурнай, моўнай, рэлігійнай самабытнасці грамадскіх арганізацый беларускай дыяспары ва Украіне.

Смуткуем у сувязі са смерцю Ірыны Аляксандраўны, выказваем глыбокае спачуванне родным і блізкім. Адказная, працавітая, прынцыповая, сапраўдная беларуска – такой яна назаўжды застанецца ў нашых сэрцах і памяці.

*belukrresurs.org*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным, сябрам і калегам Ірыны Аляксандраўны. Светлая ёй памяць!***

## ПАМЁР ДЗЕЯЧ ЭМІГРАЦЫІ МІКОЛА ПРУСКІ



У горадзе Дэтройт (штат Мічыган, ЗША) памёр пасля цяжкай хваробы Мікола Пруські (01.01.1928 — 22.01.2014).

Нябожчык, ураджэнец Мікалаеўшчыны (Стаўбцоўшчына), быў шырока вядомы як выдавец, рэдактар, грамадскі і культурны дзеяч, а таксама дабрачынец, які пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь быў ініцыятарам пасылання на Бацькаўшчыну кантэйнераў гуманітарнай і медыцынскай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

Яго маці Міхаліна была стрыечнай сястрой Якуба Коласа. Мікола Пруські быў актывістам Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Дэтройце (1960—1970-я), сябра БАЗА. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг, у тым ліку разам з БІНІМам; рэдагаваў часопіс "Беларускі свет", "Беларускі дайджэст".

Управа Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку выказвае шчырае спачуванне сям'і нябожчыка.

*БІНІМ, "Наша Ніва"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Міколы Пруськага. Светлая яму памяць!***

## БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ РАСПАЧАЛІ СЕРЫЮ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ПА ЎШАНАВАННІ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

У нядзелю, 26 студзеня, споўнілася роўна дваццаць гадоў, як памёр Алесь Адамовіч, вялікі беларускі пісьменнік XX стагоддзя.

Актывісты некалькіх беларускіх арганізацый Масквы сёння ўсклалі кветкі да памятнае шыльды ў ягоны гонар. Таксама плануецца прысвяціць Адамовічу занятак маскоўскай "Мовы ці кавы" і правесці вечар ягонае памяці.

Акрамя таго, што ён быў выбітным літаратарам, Адамовіч актыўна выступаў з крытыкай таталітарнага савецкага рэжыму, раскрываў праўду пра Чарнобыль.

Уласна, яго актыўная дзейнасць вакол Чарнобыля і выклікала ціск з боку ўладаў БССР, у выніку якога ён вымушаны быў з'ехаць у Маскву.

Здабыўшы славу пісьменніка, Адамовіч выкарыстоўваў свой аўтарытэт для таго, каб падымаць важныя для грамадства тэмы.

Жывучы ў Маскве, Адамовіч захоўваў сувязі з Беларуссю, быў сярод кіраўнікоў Маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, падтрымліваў кантакты з Беларускім Народным Фронтам, падпісаў ліст з прапановай зрабіць "Ваяцкі марш" дзяржаўным гімнам Беларусі. Пры гэтым ён не стараніўся і маскоўскага грамадска-палітычнага жыцця: быў народным дэпутатам СССР, актыўна падтрымліваў дэмантаж камуністычнага рэжыму ў 1991 годзе, выступаў у абарону дэмакратыі падчас маскоўскіх беспарадкаў у 1993 годзе.

Адамовіч злучаў Беларусь і Расію, быў мостам паміж нашымі краінамі — пры гэтым будучы нацыянальна свядомым беларусам і не будучы сталіністам або славянафільскім шавіністам.

Гэта вельмі рэдкае спалучэнне якасцяў — нагэтульки рэдкае, наколькі і неабходнае нам для будаўніцтва нармальных, раўнапраўных і канструктыўных беларуска-расійскіх дачыненняў.

*Паводле Алеся Чайчыца, "Наша Ніва"*

**Беларусы ў свеце**
№1(141), студзень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27